# Карэспандэнцыі.

## Бяз грошаў і без вады.

(Вішнева, Валожынскага пав.).

У нашых лясох бышага графа Бутенева-Хрептовіча, цепер фірмы Чырінскага, адкрыліся вялікія лясныя работы; народ скапіўся ў лес ня толькі мясцовы, ня толькі з усіх куткоў Заходняй Беларусі, а навет папрыяжджаў з Каранное Польшчы. Лес поўны людзей, работа кіпіць, а плата заработная дастаецца надта слаба. За недастаткам грошаў у фірмы, выплаты адкладываюць з нядзелі на сераду, а з серады на нядзелю і так працягіваецца цэлыя месяцы, а то два і тры.

Карыстаюцца гэтым вішнеўскіе спэкулянты: пад прыкрыцьцем фірмы паадкрывалі ў лясох спажывецкія крамы, у каторых можна дастаць па квітох фірмы розных прадуктаў, хоць па цэнах чуць не ўдвая даражэй рынковых цэн. Заяўлялі работнікі паліцыі аб высокіх цэнах на прадукты; праўда, яўлялася паліцыя на месца прадажы, але ці яна крычала ці хваліла прадаўцоў за тое, што дзяруць скуру з работніка,—нікому не вядома, а цэны, якія былі, такія і засталіся.

Ну, гэта яшчэ бяда на палавіну,—хоць дарага, але ёсьць!

Самая галоўная рэч для чалавека ў гарачы час пры рабоце—гэта вада, каторай у нас ніхто не дастаўляе, а ў лесе яе няма. Пакапалі нібы студні па 3, па 5 вёрст адна ад аднэй,—можа-б у гэтых студнях і была-б вада, каб ішоў дождж, а як няма дажджу, то няма й вады. Народ, п'ючы ваду з розных равоў з жужламі ды балотам, страшна хварэе на жываты. Вось нядаўна работнікі Мацей Бурак, Язэп Азарэвіч і Міхал Круцька, чуць не памерлі ад вадзяных жужлаў у жываце, што й сцьвярдзілі фэльчары Шымулевіч і Пыскло.

Няма абароны рабочым, лічаць іх быдлам, як гэта чулі мы няраз пры выплатах грошы, ад нашых „блюстителей парадку“: „стуйцe быдло, в огонках“! Але мыліцеся паны: „быдла“ гэтае мае розум, яно ўсё гэта запамятае і вернець Вам некалісь з працэнтамі. **Адзін з рабочых.**

## Паншчына.

(Хутар Перадзея, Кругавіцкай гм., Лунінецкага п.).

Вузкія нашы палоскі, пасьвіць скаціны няма дзе,—а тут побач абшары казённага лесу. Нат за цара за 20 капеек ад штукі пасьвілі мы ў лесе скаціну цэлы год.—А цяпер гэта залежыць ад гаёвага Пятра Галіцкацкага. — Хто робіць яму паншчыну, той можа пасьвіць, а хто не, дык ня ткніся! Ды мала таго! Зазлуецца на каго, дый напіша пратакол, што на маладым лесе пасьвіў, а ў судзе не распытваюць, ці праўда, але завочна адразу засудзяць на 30—40 зл. І ты, селянін, бяры кароўку за рогі, ды на кірмаш, каб заплаціць гэтую кару. **Б. М.**

## Паны мсьцяцца.

(Баранавіцкі павет).

Наша вёска Ястрабель вядзе суд з панам Катлубаем за сэрвітут. Хоць сяляне маюць дакумэнты перадваенныя, але пану гэтага мала: ён падаў у суд і прайграў, а цяпер падаў апэляцыю ды тым часам мсьціцца ўсялякімі спосабамі над сялянамі.

Жыхар в. Ястрабель купіў у яго лесе некалькі вярхоў, што асталіся і гніюць у лесе ад парубкі. Панскія прыслужнік Кажэнеўскі ацаніў 10 зл., але ў селяніна не хапала 70 гр. Селянін прасіў яго, каб зьлітаваўся і ўступіў або хоць пачакаў. А ён адвярнуўся і не глядзеў на пакорна зьняўшага шапку прасіцеля. Эх! панок, адварочываешся ад нас, а чаму ты не адвернесься ад грошаў, што мо' ўзяты ад паўгалодных дзяцей? Па паўгадзінным маленьні, як прад богам якім (бо прасіў зьняўшы шапку), панок нарэшце, здаволены з пакоры, сьмяючыся ўступіў 70 гр.

Ня думай панок, што ніхто ня помніць гэтага паніжэньня! Ці ты прыслухаўся да шуму старага бору, што цябе тады акружаў? Ён шаптаў селяніну, што ён будзя сьведкам яму ў наш судны дзень. Мсьцішся, што ты ня можаш адабраць сэрвітуту. Эх! панок, пакінь лепш гэтае дзела!

**Прысутны.**

## Зьдзекуюцца.

(Піншчына).

Іванаўская паліцыя, Драгічынскага пав., спаткала нейкага чалавека, які ехаў на кані, а з ім бег сабака. Паліцыя напісала пратакол за сабаку. Гэты чалавек, баючыся кары, падаў не сваё прозьвішча, а чужое, як ведама — Мікалая Сахайчука, з вёскі Огава, Бродніцкай гм., Пінскага пав. Паводле пратаколу прыйшла кара на 5 зл. 50 гр. Мікалая Сахапчука ў в. Огаве няма, — знайшлі яго ў в. Ляхавічы, а ён ня мае ані каня, ані сабакі, значыць—ясна—ня ён вінаваты. Уладзе, аднак, дзела да гэтага няма, прыехаў войт Кузьбар—у ролі „эгзэкутара“ па гэтыя 5 зл. 50 гр. Увайшоўшы ў хату Мік. Сахапчука і не застаўшы нікога ў хаце, „зарэквіраваў“ з вакна сабе ў кішэнь гадзіньнік. Гаспадар пасьля аглядзіўся і адабраў. Дык за гэта войт пагражае трыма месяцамі вастрсгу за „непашану да начальства“. **Бачыўшы.**

## Суд кароткі і несправядлівы.

(Сакалова, Косаўскага пав.).

У в. Смалярка, Картуз-Бярэзкай гм., па сьмерці Пётры Гэйца асталася пяць сірот. Жонка Гэйца выйшла другі раз замуж за паляка, Мацкевіча, які скора пакінуў яе.

Войт Азерскі пачаў нагаварываць бабу, каб прадала яму зямлю, астаўшуюся па Гэйцу. Так і сталася. Калі войт прыступіў да зьбіраньня сена, адна з сірот па Гэйцу пазвала суседзяў і не дала вывязьці ўсяго сена, а толькі тую часьць, якая належыла Мацкевічысе. Сена было затрымана да суда. На працэсе адвакат выясьніў, што да маемасьці Мацкевіча прычэпліваюцца нейкія сіроты, усё роўна, як-бы яны ня мелі права на маемасьць бацькі. Адначасна сьведкі з боку войта фальшыва паказалі, што ў часе спору суседзі казалі жонцы Мацкевіча „палякі—усе за Буг!“.

Засудзілі: дачку Гэйца, Аляксандру і суседзяў Кавалевіча Івана, Кавалевіча Ільлю, Антона Гэйца — на 3 месяцы, Ф. Белевіча—на 4 месяцы — за „антыпаньствовыя“ выкрыкі, хто іх там знае. Сіротам-жа іх майна не вярнулі!.. **Сусед.**

**Ад Рэдакцыі.** Трэба падаць апэляцыю.

## Усіх „nie sprzątniecie“!

(М-ка Казлоўшчына, Слонімскага пав.).

На заклік „Міжпартыйнага Сэкрэтарыяту для барацьбы за амністыю палітычным вязьням“ некалькі мясцовых сялян з Грамады дружна ўзяліся зьбіраць подпісы па вёсках. Гэта спалохала наша начальства.

25-га ліпня адбылося надзвычайнае паседжаньне ўсіх солтысаў, дзе было пастаноўлена вясьці сьпісак дамагаючыхся амністы ды падаць яго на пастарунак. А паліцыянты палохаюць і тэрарызуюць насяленьне—„My was sprzątniemy“, кажуць яны.

Сьвядомыя аднак не баяцца і далей падпісваюць. Усіх „nie sprzątniecie“—вастрога ня хопіць.

**Сьвітка.**

## Дэфэнзыва на вёсцы.

(в. Вянзавец, Дзятлаўскай гм., Наваградзкага пав.).

Некалькі гадоў назад зьявіўся ў нас нейкі У. Гарбун, які зарэкамандаваўся прыяцелем сялян. Але пасьля яго зьяўленьня нешта часта пачала ў вёску заглядаць паліцыя, пачаліся вобыскі, а потым і арышты. Гэтак арыштавалі жыхара вёскі Вянзаўца, Данільчыка, які за нішто прасядзеў 3 месяцы. Арыштавалі Хаміцкага і таксама цягалі па пастарунках з месяц. Арыштавалі Вераб'я з в. Хвінявічы і шмат іншых і ўсіх за тое, што яны сьвядомыя беларусы і хацелі адчыніць беларускую школу. Але вось, людзі даведаліся, што даносчыкам служыць У. Гарбур, за што атрымлівае сталую пэнсію, і навет дармавы білет на праезды ў цягніку. Імя пад якім ён ведамы паліцыі—„Garbunia“. Цяпер ён залажыў сэкрэтарыят Паўлюкевіча і ловіць на вудачку несьвядомых, каб потым усадзіць у турму.

**Сьведка.**

## Культурная праца не замірае.

(В. Руткавічы, Наваградзкага пав.).

27 чэрвеня сёл. г. моладзь в. Руткавічы наладзіла ў сябе спэктакль. Ставілі п'есы: „Чорт і баба“ і „Па рэвізіі“. Гулялі, як на першы раз, вельмі добра, асабліва добра гуляла Клаўдзія Гоцько ў ролі бабы і Пантурчыхі. Днём гулялі для дзяцей бясплатна, а пасьля для старшых. Людзей было больш за 300.—Уражаньне вялікае, публіка вельмі здаволена!

11 ліпня йзноў ставілі: „На вёсцы“ і „Зьбянтэжаны Саўка“. Гулялі асабліва добра. Тут адзначыўся Тодар Мазур у ролі Стасюка і Саўкі, а таксама Клаўдзія Гоцько—ў ролі Ганулькі і Маргэты. Быў аркестр з 14 музыкантаў карэліцкай музыкі. Саля пекна была прыбрана: дэкарацыя—ўквечана. Людзей было больш 400.

Гурток ня сьпіць, маніцца ставіць „Калісь“.

**Адзін з прысутных.**

# КАТАЛЁГ

**Беларускае Кнігарні Беларускага Выдавецкага Таварыства ў Вільні, Вострабрамская вул. № 1.**

## I—А. Школьны аддзел:

1. **А. Смоліч.** Зорка. Першая навука чытаньня і пісаньня для бел. дзетак. Выд. 10-е Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1925 г. Цана 85 гр.
2. **А. Смоліч.** Зорка. Часьць II-я Бел. Граматка. Выд. 4-е Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1924 г. 1 зл.
3. **Л. Гарэцкая.** Родны Край. Перш. пасьля лемантара кніжка да чытаньня. Выд. 3-э Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1921 г. Ц. 1.20.
4. **L. Hareckaja.** Rodny Kraj. I-šaja knižka paśla lemantara. Wyd. IV-aje T-wa Bieł. Škoły. Wilnia, 1921 h. C. 1.20.
5. **Л. Гарэцкая.** Родны Край. II-я пасьля лем. кніга да чытаньня. Выд. перараобл. і дапоўненае Б. Клецкіна. Вільня, 1923 г. Ц. 2.90.
6. **Л. Гарэцкая.** Родны Край. III і IV пас. лем. кн. да чытаньня. Выд. Т-ва Бел. Школы. Вільня, 1921 г. Ц. 2.85.
7. **Я. Колас.** Другое чытаньне для дзяцей беларусаў. Пецярбург. 1910 г. Ц. 1.20.
8. **Б. Тарашкевіч.** Беларуская Граматыка для школ. Выд. IV Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1922 г. Ц. 1 зл.
9. **B. Taraškiewič.** Biełaruskaja Hramatyka dla škoł. Wyd. Bieł. Kam. Wilnia, 1918 h. C. 1 zł.
10. **J. Stankiewič.** Nowy Lemantar dla Biełaruskich dzietak. Wyd. III steoret. Min. Biełarusk. Sprań, 1920 h. C. 35 hr.
11. **Я. Станкевіч.** Правапіс чужых слоў. Бел. Выд. Т-ва. Ц. 10 гр.
12. **Я. Станкевіч.** Беларуская правапісь з практыкаваньнямі. Выд. Б. Клецкіна. Вільня, 1921 г. Ц. 30 гр.
13. **K. Abicht i J. Stankiewič.** Prosty sposab stacca ŭ karotkim časie hramatnym.
14. **Р. Астроўскі.** Беларускі правапіс. Выд. Б. Клецкіна. Вільня, 1925 г. Ц. 1.95.
15. **Р. Астроўскі.** Космографія. Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1924 г. Ц. 1.75.
16. **A. Łuckiewič i J. Stankiewič.** Biełaruski Prawapis. Wyd. Bieł. K-tu. Wilnia, 1918 h. C. 35 hr.
17. **М. Гарэцкі.** Гісторыя Беларускае Літэратуры. Выд. II-е. Б. Клецкіна. Вільня, 1921 г. Ц. 3.90.
18. **М. Гарэцкі.** Хрыстаматыя Бел. Літэратуры XI век—1905 г. Вільня, 1923 г. Ц. 4.95.
19. **W. Łastoŭski.** Wypisy z Biełaruskaje Literatury. Wyd. W. Łastoŭskaha. Wilnia, 1918 h. C. 1.20.
20. **Г. Юрэвіч.** Задачнік для пачатковае школы. I год. Выд. III-е папраўл. Белар. Шк. Рады. Вільня, 1921 г. Ц. 30 гр.
21. **С. Рак-Міхайлоўскі.** Арытмэтычны Задачнік для пачатк. школ, II і III год. Выд. Б. Клецкіна. Вільня, 1923 г. Ц. 1.20.
22. **Н. Рыбкін.** Геомэтрычны задачнік. I ч. Плянімэтрыя. Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1925 г. Ц. 1.75.
23. **А. Кісялёў.** Элемэнтарная альгэбра. I ч. Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1921 г. Ц. 1.75.
24. **А. Кісялёў.** Элемэнтарная альгэбра. II ч. Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1922 г. Ц. 3 зл.
25. **У. Ігнатоўскі.** Кароткі Нарыс Гісторыі Беларусі. 2-е выд. У. Знамяроўскага. Вільня, 1921 г. Ц. 2 зл.
26. **В. Остэрлёф і Я. Шустэр.** Сусьветная гісторыя. Ч. II. Сярэднявечная гісторыя. Выд. Бел. Нав. Т-ва. Вільня, 1922 г. Ц. 2 зл.
27. **В. Остэрлёф і Я. Шустэр.** Сусьветная гісторыя: ч III-я. Выд. Бел. Нав. Т-ва. Вільня, 1922 г. Ц. 2.20.
28. **А. Г. Вільфіус.** Навейшая гісторыя. Выд. Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1925 г. Ц. 2.50.
29. **Włast.** Karotkaja Historyja Biełarusi z 40 rysunkami. Druk. M. Kuchty. Wilnia, 1910 h. C. 2.25.
30. **А. Смоліч.** Географія Беларусі. Выд. 2-е значна перароб. і пашыр. вып. I. Выд. Б. А. Клецкіна. Вільня, 1922 г. Ц. 2 зл.
31. **А. Смоліч.** Географія Беларусі. Выд. 2-е значна перароб. і пашыр. выпуск II. Выд. Б. А. Клецкіна. Вільня, 1922 г. Ц. 3.75.
32. **А. Смоліч.** Географія Беларусі, выд. 3-е перараобл., пашыр. з 159 рыс. Выд. Б. Клецкіна. Вільня, 1923 г. Ц. 6.50.
33. **А. Нэканда-Трэпка.** Фізыка. Мэханіка і цяплыня. Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1922 г. Ц. 3.50.
34. **А. Нэканда-Трэпка.** Фізыка ч. II. Акустыка. Выд.. Бел. Выд. Т-ва. Вільня, 1924 г. Ц. 1.75.
35. **Н. Малышэў.** Фізыолёгія і анатомія чалавека. Выд. Мін. Белар. Спраў у Літве. Коўна, 1923 г. Ц. 2.75.
36. **В. Зелінскі.** Батаніка. Падручнік для сярэдніх школ. Выд. Мін. Белар. Спраў у Літве. Коўна, 1924 г. Ц. 4.75.
37. **Янка Станкевіч.** Паўкулі пабеларуску. Выд. Т-во Белар. Школы і А. Сыркіна. Вільня, 1921 г. Ц. 1.15.
38. Карта Беларусі (нямая).
39. **А. Луцкевіч.** Як вучыць у новай школе. Увагі для вучыцялёў белар. сярэдн. школ. Выд. Віл. Бел. Гімн. Вільня, 1923 г. Ц. 20 гр.
40. „Праграмы Беларускае Ніжэйшае Пачатковае Школы“. Цэн. Бел. Шк. Рады. Менск, 1920 г. Ц. 1 зл.
41. Праграмы для паступленьня ў Беларускія Гімназіі. Выд. Т-ва Белар. Школы. Вільня, 1925 г. ц. 30 гр.
42. Праграмы Беларускае пачатковае школы ў Латвіі. Выд. Аддз. пры гал. упр. Мін. Прас. Рыга, 1925-26 г.
43. **Л. Чарняўская.** Дзяціныя гульні. Выд. Бел. Выд. Т-ва „Крыніца“. Вільня, 1919 г.

### Распрададзеныя:

44. **Я. Лёсік.** Наша Крыніца. 3-е чытаньне.
45. **Łastoŭski.** Niezabudka. Pieršaja paśla lemantara čytanka.
46. **Łastoŭski.** Siejbit. Druhaja paśla lemantara čytanka.
47. **Łastoŭski.** Rodnyja zierniaty. Knižka dla školnaha čytańnia. Hod II i III.
48. **Łastoŭski.** Biełaruski lemantar.
49. **А. Цётка.** Першае чытаньне.
50. **Юрэвіч.** Задачнік. II і III ч.
51. **A. Ciotka.** Haściniec dla małych dzietak.

(Працяг будзе).

Адказны-Рэдактар: **Т. Крачына.** Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**